ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА
УРАД МАЕ НАМЕР СКАРАЦІЦЬ АБ'ЁМ ЗМІСІЙНАГА КРЭДЫТАВАННЯ Стар. 2.
АД ДЫСКРЫМІНАЦЫІ ЖАНЧЫН СТРАЧВАЕ ЎСЁ ГРАМАДСТВА
ГУТАРКА З Людмілай ПЕЦІНАЙ. Стар. 3.



АСОБА І ЧАС
Бажэна ШЭР, прафесар Сарбоны, аб навуковай і творчай дзейнасці Алены ЯСКЕВІЧ Стар. 4—5.
СПАДЧЫНА
СВЯТЫЯ КАЛОДЗЕЖЫ Стар. 5.
БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ Стар. 6.



МІНСКІЯ ПЕЙЗАЖЫ
А Ў НАС, У МІХАЙЛАЎСКІМ...
ВЕРШЫ ГАННЫ КАШУБЫ Стар. 7.
ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ
Яўлаліі і Эдуарда ХАНКОЎ Стар. 8.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

10 лістапада 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 45 (2655)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ



Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.

## Ігар АСТАШКА:

## «МА-УРЫ Я АВАЛОДАЎ У ДАНІІ»

**Апошнім часам у нас наракаюць, што за мяжу ад'язджаюць здольныя спецыялісты. Што ж будзе з намі, калі адбываецца масавая "ўцечка мазгоў"! Што чакае краіну ў будучыні! Такія пытанні непакояць многіх. І тым не менш, не ўсё так песімістычна, як прадказваюць некаторыя. У кожнага працэсу ёсць свае адмоўныя і станоўчыя моманты. Многія з тых, хто паставіў перад сабой мэту на свет паглядзець, сябе паказаць і адправіўся на Захад у імкненні пашырыць свой інтэлектуальны патэнцыял, палепшыць матэрыяльнае становішча, праз некаторы час вяртаюцца на радзіму, поўныя надзей і жаданняў атрымання веды і вопыт прымяняць у сябе дома.**

**Падобнае адбылося і з мінчанінам Ігарам АСТАШКАМ. Ён вучыўся ў Польшчы, затым у Даніі ў Інстытуце Ма-Уры — Цэнтры палінезійскіх гаючых мастацтваў. Асвоіў экзатычную навуку — палінезійскую рэфлексатэрапію, масаж, распаўсюджаны ў многіх краінах Еўропы і прызнаны афіцыйнай медыцынай як лячэбны. У Беларусі Ігар — адзіны выпускнік інстытута, заснаванага ў Даніі выхадцам з Новай Зеландыі Хэмі Фоксам дзесяць гадоў назад.**

Стар. 3.

МАНІТОРЫНГ

## САМААДЧУВАННЕ БЕЛАРУСАЎ

### З ПАЗІЦЫЙ САЦЫЯЛОГІІ

Напрыканцы кастрычніка ў Мінску прайшла чарговая сустрэча, арганізаваная Беларускай асацыяцыяй фабрык мыслення (Belarussian Association of Think Tanks). За круглым сталом сабраліся вядомыя незалежныя даследчыкі грамадскіх адносін, палітыкі, журналісты. Дыскусію наведалі кіраўнік рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыян Севярын, які на той час прыбыў з візітам у нашу краіну, і кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі пасол Ханс-Георг Вік. Выступленні замежных гасцей тычыліся перспектыў перагаворнага працэсу паміж афіцыйнымі беларускімі ўладамі і апазіцыяй, што пачаўся па ініцыятыве і пад эгідай АБСЕ. Сярод асноўных арганізатараў і ўдзельнікаў абмеркавання — вядомыя сацыёлагі, прафесары Алег Манаеў і Андрэй Вардамацкі, кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леанід Заіка, былы міністр працы, эканаміст Аляксандр Сасноў, доктар філасофскіх навук, прафесар Аляксандр Патупа...

Найпершай мэтай сустрэчы была абвешчана прэзентацыя шэрагу апошніх выданняў, падрыхтаваных незалежнымі аналітычнымі і даследчымі цэнтрамі: Аналітычнага бюлетэня Беларускай асацыяцыі фабрык мыслення, беларускага часопіса па праблемах міжнароднай палітыкі "Вектар" ("Vector", выдаецца Міжнародным інстытутам палітычных даследаванняў пры садзейнічанні Мантэрэйскага інстытута міжнародных даследаванняў (ЗША) і распаўсюджваецца ў СНД, краінах Еўропы і ЗША), інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў "Новости НИСЭПИ", кніг — "Национально-государственные интересы Республики Беларусь" пад рэдакцыяй Л. Заікі, "Выборы подлинные, свободные и справедливые".

Падчас трохгадзіннай дыскусіі прагучала нямала цікавых думак, арыгінальных меркаванняў, але галоўная інфармацыя, плён напружанай паўгадавой працы быў сканцэнтраваны менавіта ў вышэйназваных выданнях. Сёння мы прапануем чытачам вытрымкі з матэрыялаў, распаўсюджаных доктарам сацыялагічных навук, прафесарам Андрэем Вардамацкім, які ўзначальвае аўтарытэтнае даследчае прадпрыемства "НОВАК".

Лабараторыя "НОВАК" прапануе вынікі чарговага сацыялагічнага маніторынга грамадскага меркавання. Перыяд апытання — з 25 верасня па 3 кастрычніка бягучага года. Аб'ём выбаркі — 1 100 рэспандэнтаў, якія прадстаўляюць дарослае насельніцтва Беларусі ва ўзросце да 18 гадоў і старэй. Андрэй Вардамацкі заўважае, што пра якія-небудзь радыкальныя змены грамадскага меркавання ў параўнанні з папярэднім замерам пакуль гаварыць не даводзіцца, але засяроджвае ўвагу на трох істотных, на яго погляд, момантах.

**Прэзідэнцкі рэйтынг** (вымяраемы пытаннем "Калі б у бліжэйшы час адбыліся новыя выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, каго б вы падтрымалі ў першую чаргу?") застаўся практычна тым жа, як і ў жніўні 1999 года. Ён знаходзіцца на ўзроўні 45,8 працэнта.

**Расійска-беларускія адносіны** — адна з найбольш актуальных тэм грамадска-палітычнага жыцця краіны. Вымярэнні гэтай пазіцыі ажыццяўляліся блокам пытанняў. Асноўная тэндэнцыя — негатыўная дынаміка ў бок змяншэння арыентацыі насельніцтва на падтрымку інтэграцыі. На пытанне "Калі б сёння праводзіўся рэферэндум па пытанню аб'яднання Расіі і

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## ВІНШАВАННІ!

**У Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі — юбілей: сорак гадоў назад адбыўся першы канцэрт славутага калектыву.** Шмат гастрольных дарог пракладзена за дзесяцігоддзі творчасці: у паслужны спіс ансамбля ўжо ўнесена 30 краін свету, вынік чаго — заслужанае сусветнае прызнанне майстэрства беларускіх харэографаў, танцоўшчыкаў і мастакоў. Але і сцяжынкі роднай Беларусі не засталіся па-за іх увагай. Сцэна раённага, а часам і вясковага Дома культуры для артыстаў ансамбля і яго кіраўніка народнага артыста Беларусі Валянціна Дудкевіча такая ж паважаная, як і вялізная еўрапейская канцэртная арэна.

Выступленне ансамбля — сапраўдная феерыя музыкі, руху, святла і фарбаў — відовішча, якое па-сапраўднаму ўзрушвае і застаецца ў памяці назаўсёды. Вялікая заслуга ў гэтым выдатнай мастачкі па касцюмах Айшы Александровіч, чый талент і вытанчаны густ пасняхова дыктуюць "ансамблевую моду". Увогуле ж творчасць калектыву будуецца не толькі на спрадвечных народных традыцыях, але і з'яўляецца фактам высокапрафесійнага балетнага і тэатральнага мастацтва. Апроч таго, для Валянціна Дудкевіча як кіраўніка калектыву і адмысловага мастака вельмі важным з'яўляецца момант шчырага яднання з глыбінямі агульнай беларускай культуры і народнай духоўнасці, нездарма ж у рэпертуары з'явіліся такія нумары, як "Паланез Агінскага", "Ефрасіння". Сёння Дзяржаўны ансамбль танца ўпэўнена рухаецца да пераўтварэння ў тэатр танца. Поспехаў і плёну!




Пятрусь БРОЎКА

**Скрозь стагі, стагі ў зялёных світах...
Звезлі з поля залатое жыта,
А бярозы, клёны, дзе ні глянеш —
Апранулі жоўтае убранне.
Быццам сарамлівая дзяўчына,
Аж гарыць ад чырвані рабіна,
Вецер золкі па шляхах гуляе,
Дзе ні йдзе — чырвонцы растрасае,
Павукі паміж ялін і сосен
Колькі заснавалі новых кросен.
Восень... Восень...**

ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

# УРАД МАЕ НАМЕР

## СКАРАЦІЦЬ АБ'ЁМ ЭМІСІЙНАГА КРЭДЫТАВАННЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг лічыць адным з асноўных фактараў "раскручвання інфляцыі" ў рэспубліцы практыку эмісійнага крэдытавання, якая захоўваецца. Пра гэта ён заявіў, выступаючы перад слухачамі семінара кіруючых работнікаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў Мінску.

Па словах прэм'ера, урад мае намер "гэты кранік прыкруціць", скараціўшы прадастаўленне эмісійных крэдытаў па меншай меры ў два разы. У прыватнасці, С. Лінг выказаўся за спыненне выдачы насельніцтву льготных крэдытаў на тэрмін 40 год пад 5 працэнтаў гадавых для будаўніцтва жылля. "Наша эканоміка проста не вытрымае", падкрэсліў ён. Прэм'ер заклікаў больш актыўна прыцягваць у жыллёвае будаўніцтва сродкі прадпрыемстваў і грамадзян, знаходзіць іншыя крыніцы фінансавання, развіваць іпатэчнае крэдытаванне. "Іншага шляху ў нас няма", канстатаваў С. Лінг. Разам з тым ён пацвердзіў нязменнасць курсу на стымуляванне рэальнага сектара эканомікі і падтрымку сацыяльна не абароненых слаёў насельніцтва.

Прэм'ер выказаў думку, што менавіта наяўнасць лішніх грошай у абароце "разганяе сёння курс беларускага рубля". "Грошы павінны каштаваць столькі, колькі яны каштуюць, як і любы тавар", заўважыў С. Лінг.

Ён паведаміў, што ўрад прымае меры па дасягненню станоўчага сальда гандлёвага балансу (у даны момант дэфіцыт гандлёвага балансу Беларусі складае 326 мільёнаў долараў, скараціўшыся з пачатку года ў 3,4 раза), звядзенню да мінімуму дэфіцыту бюджэту, усямернаму скарачэнню дзяржаўных выдаткаў. Адначасова прэм'ер прапанаваў кіраўнікам банкаўскай сістэмы ўзмацніць кантроль за грашовымі патокамі ў краіне. "Калі наша эканоміка прапрацуе яшчэ хаця б год пры захаванні некалькіх курсаў беларускага рубля, я не ведаю, чым гэта скончыцца для любога суб'екта гаспадарання ў рэальным сектары", сказаў кіраўнік урада.

С. Лінг канстатаваў таксама, што ў рашэнні пытанняў рэфармавання ўласнасці ў рэспубліцы многімі кіраўнікамі "праяўляецца коснасць, якая сур'ёзна перашкаджае павышэнню эфектыўнасці вытворчасці".




На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледжаны пытанні "Аб ходзе рэалізацыі Праграмы развіцця прамысловага комплексу Рэспублікі Беларусь на 1998—2015 гады" і "Аб мерах па развіццю транзітных перавозак грузаў праз тэрыторыю Рэспублікі Беларусь аўтамабільным і чыгуначным транспартам".

**Адзначыўшы, што ў сучасны момант 42 працэнты прамысловай прадукцыі ў Беларусі вырабляецца на недзяржаўных прадпрыемствах, прэм'ер заклікаў больш актыўна падтрымліваць "сур'ёзных уласнікаў, якія працуюць на дабрабыт дзяржавы", і спыняць спробы чыноўнікаў дзейнічаць у парушэнне канстытуцыі, якая дэкларуе роўнасць розных форм уласнасці". Тармажэнне працэсу рэфармавання ўласнасці, на думку С. Лінга, "падрывае будучыню беларускай дзяржавы". "Павінна існаваць сістэма законаў, якая абараняе прыватную ўласнасць, інакш замежны інвестар да нас не прыйдзе", упэўнены прэм'ер. У данай сувязі ён адзначыў, што ўдзельная вага інвестыцый у эканоміку Беларусі знізілася ў бягучым годзе на 5 працэнтаў у параўнанні з мінулым.**

Кіраўнік урада перакананы, што "калгасы як форма гаспадарання ўжо аджылі сваё, бо ператварыліся па сутнасці ў дзяржаўныя прадпрыемствы". "З гэтай справай трэба канчаткова разбірацца", лічыць С. Лінг. У данай сувязі ён адзначыў, што, "калі ў селяніна не загаворыць пачуццё ўласніка, мы ніколі не даб'ёмся высокай вытворчасці працы і не атрымаем таннай прадукцыі". Таму, перакананы прэм'ер, "неабходна ў корані змяніць эканамічныя адносіны да вёскі. Ад гэтага залежыць харчовая бяспека дзяржавы".

У той жа час прэм'ер адзначыў, што "ні менталітэт беларускага народа, ні тэхнічныя магчымасці не дазваляюць у сучасны момант перайсці да прыватнага землеўладання". Ён паставіў у заслугу ўладам той факт, што ў рэспубліцы ўдалося "захаваць патэнцыял сельскагаспадарчай вытворчасці". Па словах С. Лінга, урад будзе прытрымлівацца узважанную палітыку на вёсцы, з тым каб забяспечыць дастатковую рэнтабельнасць. "Гэта — агульнадзяржаўная задача", заявіў кіраўнік урада.

Ён таксама заклікаў адмовіцца ад "празмерна жорсткага, усеабдымнага кантролю з боку ўлад" за дзейнасцю суб'ектаў гаспадарання і "рухацца ў бок павышэння іх эканамічнай адказнасці за вынікі працы". "Дзяржаўнае рэгуляванне — рэч неабходная, але яна не павінна ператварыцца ў сваю супрацьлегласць", заўважыў С. Лінг. Разам з тым ён падкрэсліў, што "дзяржава не мае намеру ўпускаць са сваіх рук лейцы кіравання эканомікай".

**Падводзячы вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў апошнія гады, С. Лінг заявіў: "Мы не проста абвясцілі нацыянальны суверэнітэт, але і забяспечылі яго прамысловым, ваенным і харчовым патэнцыялам". У якасці пацвярджэння ён спаслаўся на тое, што за апошнія тры гады аб'ём прамысловай вытворчасці ў рэспубліцы ўзрос на трэць, а 85 працэнтаў спажытага харчавання выраблена айчыннымі вытворцамі.**

МАНІТОРЫНГ

# САМААДЧУВАННЕ БЕЛАРУСАЎ

## З ПАЗІЦЫЙ САЦЫЯЛОГІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Беларусі ў адзіную дзяржаву, то вы асабіста прагаласавалі б "за" ці "супраць"? "За" адказалі 35,8 працэнта апытаных, што прыкладна на 4 працэнты менш, чым у жніўні. Асаблівa інтэнсіўна гэты працэс пайшоў у Мінску: мінімальная перавага ў бок праціўнікаў, што назіралася раней, цяпер стала радыкальна выразнай.

У рамках гіпотэзы аб уплыве на інтэграцыйныя ацэнкі "чэчэнскага фактара" спецыяльна задавалася пытанне: "Ці змяніліся вашы адносіны да інтэграцыі Беларусі і Расіі пасля тэрарыстычных актаў у Расіі?" Амаль чвэрць рэспандэнтаў (24,8 працэнта) выбрала пазіцыю "пасля тэрактаў я стаў менш схільны да інтэграцыі з Расіяй".

**Асноўнай падзеяй верасня** грамадская думка безумоўна лічыць тэракты ў Расіі. У параўнанні з імі ўсе ўнутрыбеларускія праблемы адышлі на другі план. Дамінанта гэтай падзеі за ўвесь час апытання была меншай толькі ў параўнанні з вастрынёй рэакцыі на бамбёжкі ў Югаславіі.

Далей мы прапануем некаторыя табліцы даных, сфарміраваныя па выніках вышэйпазначанага сацыялагічнага апытання лабараторыі "НОВАК":

**Як вы ацанілі б эканамічнае становішча Беларусі на сённяшні дзень?**

| Варыянты адказу | % |
|---|---|
| Вельмі добрае | 0,3 |
| Добрае | 3,2 |
| Сярэдняе | 35,0 |
| Дрэннае | 39,5 |
| Вельмі дрэннае | 16,2 |
| Цяжка адказаць | 4,5 |
| Няма адказу | 1,3 |

**Як бы вы ацанілі ў цэлым палітычнае становішча ў Беларусі?**

| Варыянты адказу | % |
|---|---|
| Спрыяльнае | 3,7 |
| Спакойнае | 49,3 |
| Напружанае | 32,6 |
| Крытычнае, выбухованебяспечнае | 4,8 |
| Цяжка адказаць | 6,6 |
| Няма адказу | 3,9 |

**Многія кваліфікуюць цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі як эканамічны крызіс. Ці згодныя вы з гэтым сцвярджэннем?**

| Варыянты адказу | % |
|---|---|
| Так | 62,0 |
| Не | 25,0 |
| Цяжка адказаць | 13,0 |

**Ці лічыце вы неабходным паглыбляць працэс інтэграцыі Беларусі і Расіі?**

| Варыянты адказу | % |
|---|---|
| Так, лічу | 41,4 |
| Не, не лічу неабходным | 37,8 |
| Не ведаю / Цяжка адказаць | 20,8 |

**Які з пералічаных варыянтаў аб'яднання Расіі і Беларусі вам асабіста больш падабаецца?**

| Варыянты адказу | % |
|---|---|
| Расія і Беларусь павінны заставацца суверэннымі дзяржавамі, але больш цесна супрацоўнічаць у галіне абароны і эканомікі | 38,4 |
| Беларусь павінна ўвайсці ў склад Расійскай Федэрацыі на правах суб'екта федэрацыі (напрыклад, Татарстан, Дагестан) | 4,0 |
| Беларусі і Расіі варта ўтварыць канфедэрацыю, якой кіруе вышэйшы, наддзяржаўны савет, што ўзначальваюць два прэзідэнты і які прымае рашэнне па прынцыпу "адзін бок — адзін голас" | 12,9 |
| Я супраць аб'яднання Беларусі і Расіі | 30,5 |
| Цяжка адказаць | 14,9 |

ІЎЕЎСКІ ЖЭНЬШЭНЬ



Калгас "Радзіма" Іўеўскага раёна, акрамя вытворчасці асноўнай сельскагаспадарчай прадукцыі, займаецца нарыхтоўкай пантаў і вырошчваннем жэньшэню для фармацэўтычнай прамысловасці. Статак аленяў-маралаў у гаспадарцы налічвае больш за 70 галоў. Пашыраецца плошчы пад жэньшэнь.




60 ГОД УЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ

# ЯК ГЭТА БЫЛО?

У верасні 1930 года пасольскі клуб "Змаганне" быў забаронены, яго кіраўнікі арыштаваны і асуджаны на доўгія тэрміны зняволення. Больш таго, быў распушчаны парламент, а ўрад прыняў новы выбарчы закон, які поўнасцю перакрываў на выбарах дарогу радыкальным сілам. Так што ў сейм у 1930 годзе прайшоў толькі адзін беларускі прадстаўнік. Шлях да легальнай парламенцкай барацьбы быў закрыты.

У нацыянальна-вызваленчай барацьбе ў Заходняй Беларусі значную ролю адыгралі **палітычныя партыі**. Да моманту далучэння да Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі некалькі партый ужо існавала. Праграмы іх былі ў многім падобныя, ва ўсякім разе, па ключавым пытанні — аб незалежнасці Беларусі.

**Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДГ)**, актыўнымі дзеячамі якой былі браты Луцкевічы, Рак-Міхайлоўскі, Тарашкевіч, Лёсік і іншыя, прапаведавала прынцыпы волі і дэмакратыі, прававой дзяржавы, выступала за нацыяналізацыю зямлі, за незалежнасць Беларусі як дэмакратычнай рэспублікі. Партыя знаходзілася ў апазіцыі да ўрада, але прытрымлівалася легальных, парламенцкіх форм барацьбы.

**Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р)** прадстаўляла інтарэсы сялянства, выступала за сацыялізацыю зямлі (адмена прыватнай уласнасці і наёмнай працы), нацыяналізацыю буйной прамысловасці, устанаўленне "сярэдняй улады" — дыктатуры ўсяго працоўнага народа ў форме Саветаў. Беларускія эсэры аб'явілі сябе "трэцяй сілай", якая змагацца за нацыянальную незалежнасць і непадзельнасць Беларусі на два фронты: супраць Польшчы і супраць Расіі. Сярод вядомых дзеячаў БПС-Р былі Бадунова, Некрашэвіч, Ластоўскі, Цвікевіч і іншыя.

**Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)**, створаная для кансалідацыі дзейнасці беларускіх католікаў, у 20-я гады перайшла на пазіцыі агульнахрысціянскай ідэалогіі. Узначаліў БХД вядомы вучоны, публіцыст і парламенцкі дзеяч ксёндз Адам Станкевіч. Партыя адстойвала асновы дэмакратычнага ладу, прыватную ўласнасць, лічыла неабходным перадаць зямлю ва ўласнасць і без выкупу беззямельным і малазямельным. Хрысціянскія дэмакраты адмаўлялі класавую барацьбу, выступалі супраць аддзялення царквы ад дзяржавы і за самастойнасць Беларусі.

Каардынаваў дзейнасць усіх беларускіх нацыянальна-дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый у Польшчы **Беларускі нацыянальны камітэт (БНК)**. Створаны ён быў у 1921 годзе ў Вільні і працаваў да 1938 года, калі яго дзейнасць была польскімі ўладамі забаронена. Аб'ядноўваючы прадстаўнікоў Таварыства беларускай школы, Беларускага студэнцкага саюза, прадстаўнікоў навуковых таварыстваў, прэсы і іншых, камітэт вёў вялікую культурна-асветніцкую работу і сваёй мэтай ставіў дасягненне спачатку культурна-нацыянальнай аўтаноміі Заходняй Беларусі, а затым ажыццяўленне права народа на самавызначэнне.

З узмацненнем нацыянальна-вызваленчай барацьбы сталі ўзнікаць

Працяг. Пачатак у №№ 38—39—42.



АКТУАЛЬНАЯ ГУТАРКА

**Так сталася, што за сваімі штодзённымі клопатамі беларускія жанчыны рэдка задумваюцца аб праявах жаночай дыскрымінацыі. Мы працуем, даглядаем дом, выхоўваем дзяцей. Бывае, канешне, абураемся, калі не бяруць на добрую работу, спасылаючыся на тое, што ў цябе маленькае дзіця. Але ж з усімі такое здараецца, супакойваем сябе пасля. І не здагадваемся, што ў даным выпадку парушаюцца правы чалавека. Менавіта іх абарона — клопат грамадскіх жаночых арганізацый. Адна з іх — Жаночы адукацыйна-кансультацыйны цэнтр — была створана ў 1998 годзе намаганнямі Жаночага Хрысціянска-Дэмакратычнага Руху пры падтрымцы праграмы Альянс"Counterpart" і Міжнароднага адукацыйнага цэнтра.**

**Узначальвае цэнтр Людміла ПЕЦІНА. Але акрамя гэтага Людміла Сямёнаўна яшчэ і старшыня Незалежнага Жаночага Дэмакратычнага Руху, маці сына-студэнта, феміністка па перакананню.**

# АД ДЫСКРЫМІНАЦЫІ ЖАНЧЫН СТРАЧВАЕ ЎСЁ ГРАМАДСТВА



**— Людміла Сямёнаўна, што вызначаецца галоўным у дзейнасці цэнтра?**

— Асноўная мэта — садзейнічанне павышэнню канкурэнтаздольнасці і актывізацыі ініцыятыўных паводзін жанчын у эканамічнай, палітычнай сферах, грамадскім жыцці. Цэнтр аказвае юрыдычную і псіхалагічную дапамогу ў крызісных сітуацыях.

Мы вызначылі шэраг канкрэтных праграм. Напрыклад, праграма "Школа жаночага палітычнага лідэрства" мае мэту падтрымаць жанчын у палітычнай сферы, парламенцкай дзейнасці. Мы працуем у гэтым напрамку і ў правінцыі. Нядаўна правялі семінар для жанчын-палітыкаў у рэгіёнах. Ставілася задача не толькі асэнсаваць праблемы станаўлення дэмакратыі на Беларусі, але і паказаць ролю жанчын у гэтым працэсе. Па выніках заняткаў адабралі слухачоў у школу палітычных тэхналогій, якая з`явіцца наступным этапам і прадугледжвае падрыхтоўку да парламенцкіх выбараў.

Другая праграма — "Школа прававой адукацыі і абароны правоў жанчыны".

Трэцяя датычыцца непасрэдна праблем фізічнага, псіхічнага насілля над жанчынай у сям`і, на працы, у навучальных установах.

Нядаўна мы правялі рэпрэзентатыўнае сацыялагічнае даследаванне. Яно паказала, што 90 працэнтаў апытаных (з розных гарадоў Беларусі) сутыкаліся з рознымі праявамі насілля ў сваім жыцці.

**— Ці ўмеюць жанчыны процістаяць насіллю?**

— Нават зразумець: тое, што з табой іншы раз адбываецца, — насілле, бывае цяжка. Галоўнай мэтай даследавання з`яўлялася ацэнка адэкватнасці захадаў па барацьбе з гэтым злом. У грамадстве, як стала відавочна, няма структур, інстытутаў, здольных у дастатковай ступені прафесійна абараніць жанчыну. Таксама выявілася неадпаведнасць беларускага заканадаўства вастрыні гэтай праблемы. У лістападзе мы выпусцім бюлетэнь, цалкам прысвечаны вышэйназванай тэме. Цэнтр таксама рэалізуе праграму "Жанчына. Экалогія. Здароўе".

А яшчэ мы плануем стварыць бізнес-інкубатар, каб дапамагаць жанчынам, якія маюць пэўны вопыт у бізнесе, рэалізаваць новыя праекты. Дарэчы, такая сістэма добра зарэкамендавала сябе, напрыклад, у Германіі пасля яе аб`яднання.

**— Хто там займаўся развіццём гэтай ідэі?**

— Дзяржаўныя структуры. Яны зацікаўлены стымуляваць, а не перашкаджаць удзелу людзей у працоўнай дзейнасці. Калі з`яўляецца больш эканамічна незалежных, вольных асоб (праца ў прыватным сектары вымагае вялікай адказнасці за тое, што чалавек робіць) — гэта аўтаматычна вядзе да скарачэння сацыяльных праграм. Таму ўрад падтрымлівае цікавыя для краіны праграмы. Нават у Расіі існуе такая практыка. Такім чынам, грамадства самарэгулюецца, узаемадзейнічае, вырашае свае праблемы. Думаю, з часам і ў нас запрацуе такая мадэль.

**— Што адрознівае, на ваш погляд, беларускіх жанчын ад еўрапейскіх?**

— Як еўрапейская, так і наша жанчына, як правіла, мае адукацыю і прафесію. Але ў Еўропе, акрамя роўных з мужчынамі правоў, жанчына мае роўныя з імі магчымасці. Там сям`я не стрымлівае прафесійны рост. Калі ў цябе маленькія дзеці, можаш працаваць няпоўны працоўны дзень, па гібкаму графіку.

У нас жа існуе звышэксплуатацыя жанчыны. У грамадскай свядомасці захавалася ўпэўненасць, што жанчына павінна выконваць шмат ролей — маці, кухаркі, прыбіральшчыцы і яшчэ працаваць на прадпрыемстве, ва ўстанове. І гэта не ацэньваецца, як праблема, бо існуе ўпэўненасць, быццам усё, што робіць жанчына, — яе абавязак. Таму яна павінна з усім спраўляцца. Калі ж не — гэта яе асабістыя складанасці. Кожная з нас павінна разумець, што пакуль грамадства адводзіць жанчыне падначальную, залежную ролю, дасюль пры роўных даных на значныя пасады ў эканоміцы, палітыцы трапляюць у асноўным мужчыны.

**— Як у сённяшніх умовах можна змяніць сітуацыю?**

— На Захадзе для ліквідацыі такой гендарнай асіметрыі пры роўных умовах (адзін узровень адукацыі, вопыту), калі на адно і тое ж месца прэтэндуюць мужчына і жанчына, назначаюць апошнюю. Таму што там разумеюць: ад дыскрымінацыі жанчын страчвае не толькі канкрэтная асоба, але і грамадства ў цэлым.

Мужчын задавальняе займаць прыярытэтныя пасады. Ніхто з іх без нашых пэўных намаганняў не саступіць сваё месца. Таму на Захадзе жанчыны заўсёды змагаліся за свае правы і за магчымасць займаць лідзіруючую ролю ў палітыцы, эканоміцы.

**— Няўжо на Захадзе з правамі жанчын усё добра?**

— Ведаеце, нават у такой развітой краіне, як Францыя, толькі ў 1948 годзе жанчыны атрымалі права на спадчыну і ўласнасць. Мужчына да таго трымаў усе матэрыяльныя рэсурсы ў сваіх руках. І сёння ў заходніх краінах рэалізацыя жаночых правоў падвяргаецца крытыцы. Але там ніколі не верылі міфу аб раўнапраўі жанчын. Мы ж і цяпер памылкова лічым сябе ахвярамі апошняга, а не патрыярхальнай палітыкі ўлады і звышэксплуатацыі.

**Гутарыла Алена СПАСЮК.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## Ігар АСТАШКА:

# «МА-УРЫ Я АВАЛОДАЎ У ДАНІІ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Ігар, чаму вас зацікавіла менавіта гэтая сфера дзейнасці?**

— Я вырас у сям'і досыць традыцыйнай: маці — настаўніца, бацька — ваенны. І атрымаў тэхнічную адукацыю. Але ў маёй біяграфіі ёсць і перыяд працы трэнерам па каратэ, а да гэтага былі гады заняткаў гэтым мастацтвам. Потым прыйшло захапленне кітайскай філасофіяй, медыцынай, акупрэсурай, тым, што называецца рэфлексатэрапіяй. Гадоў шэсць назад я зразумеў, што ўзровень ведаў, перш за ўсё духоўных, якога я дасягнуў, дазваляе мне працаваць з людзьмі. У мяне гэта атрымліваецца.

**— У жыцці, як вядома, выпадковасцей не бывае. Як вы "выйшлі" на Ма-Уры?**

— Пра яго я даведаўся, працуючы ў Польшчы. Ёсць такое паняцце: калі вучань гатовы, прыходзіць настаўнік. І вось гэты настаўнік з'явіўся ў самы неверагодны момант. Выпадкова, на беразе Балтыйскага мора. Потым я працягнуў абучэнне ў Марэка і Барбары Сулкоўскіх — лепшых, на мой погляд, настаўнікаў, трэнераў Польшчы, якія стварылі менавіта сваю школу выкладання, што дапамагае ў тонкасцях вывучыць усю класічную частку масажу. Пад іх кіраўніцтвам абучэнне завяршылася атрыманнем сертыфіката-дыплома ў Даніі. Некаторы час практыкаваў у Польшчы, затым пабываў на стажыроўцы ў Даніі. Праз год я павінен пацвердзіць сваю кваліфікацыю. Гэта, відаць, адбудзецца вясной.

**— Што сімвалізуе малюнак на рэкламным праспекце медыцынскага прадпрыемства "Аквамед"? Мяркуючы па ім, можна зрабіць вывад, што вы нядрэнна малюеце і маглі б стаць сапраўдным мастаком...**

— Я доўга разважаў над тым, што паказаць, каб быў проста і зразумела адлюстраваны сэнс палінезійскага масажу. Маляваў акул, іншыя рэчы. А потым успомніў: у масажы існуе адзін з элементаў, які называецца "танец альбатроса". Так з'явіўся гэты сімвал — птушка з вялікімі моцнымі крыламі, якая лётае над астраўком з пальмамі. "Танец альбатроса" — своеасаблівыя рухі рукамі, у час якіх масажыст як бы лятае, але не ў паветры, як альбатрос, а па біяполі пацыента. Альбатросы месяцамі высока і доўга лятаюць, адчуваючы сваім кожным пёркам мінімальны рух паветранага патоку, і гэта ім дазваляе без усялякіх намаганняў трымацца ў паветры, гэтаксама і тут.

**— Як, па вашаму назіранню, ідзе працэс аздараўлення людзей?**

— Я працую ў мінскай фірме "Аквамед", дзе аказваюць дапамогу і дзецям, і дарослым. Што тычыцца працэсу аздараўлення, то, на мой погляд, ён праходзіць няпроста. Параўноўваючы з Польшчай, магу сказаць, што праблемы і комплексы, ад якіх пакутуюць нашы людзі, больш моцныя і глыбінныя. Там праблемы павярхоўныя: нехта не можа купіць добры аўтамабіль, даводзіцца ездзіць на танным, у некага праблема: паехаць у Італію адпачыць ці давядзецца сядзець дома і ехаць на сваё ўзбярэжжа. У маіх суайчыннікаў клопаты іншыя.

**— Вам складана працаваць?**

— Так, патрабуюцца вялікія намаганні. Але чым складаней, тым цікавей. Гэтай жа думкі прытрымліваюцца і мае калегі — урач-тэрапеўт У. Міняйла, які прымяняе біярэзанансную тэрапію, кандыдат медыцынскіх навук, урач вышэйшай катэгорыі асістэнт кафедры акушэрства і гінекалогіі Мінскага мединстытута Т. Смірнова, неўрапатолаг, кандыдат медыцынскіх навук І. Доўнар і іншыя прафесіяналы высокага ўзроўню. Яны сваёй мэтай паставілі выкарыстоўваць пры лячэнні людзей не сінтэтычныя і хімічныя прэпараты, а сродкі, што не маюць пабочных эфектаў і не выклікаюць адмоўных вынікаў. Наша крэда — быць бліжэй да прыроды. Тых, хто хоча пераканацца ў эфектыўнасці спосабаў лячэння, што мы прапануем, запрашаем у "Аквамед". Наша прадпрыемства размешчана на другім паверсе гатэля "Агат". А напачатку з намі можна звязацца па тэлефоне 263-05-13.

**— Ці ёсць упэўненасць, што вам удаецца вылечваць хваробы?**

— Вылячэнне — гэта працэс сур'ёзнай працы пацыента над сабой. Я лічу, ніхто: ні ўрач, ні чараўнік, ні шаман — не дапаможа чалавеку поўнасцю, калі ён сам не прыкладзе да гэтага намаганняў. Іншае пытанне, што вельмі многія не маюць ні фізічных, ні духоўных сіл, каб неяк пачаць шлях самавылечвання. І мне здаецца, што менавіта тое, што я раблю, дапаможа такім людзям. Галоўнае — зняць самыя цяжкія сімптомы, паправіць здароўе настолькі, каб людзі былі ў стане клапаціцца пра сябе самі.

**Гутарыла Наталля БУДЗІЛОЎСКАЯ.**

# ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

новыя беларускія палітычныя партыі і арганізацыі. У 1922 годзе левае крыло Сацыял-дэмакратычнай партыі аформілася ў Беларускую партыю незалежных сацыялістаў, а левае крыло партыі беларускіх эсэраў — у Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю. (Потым абедзве яны ўліліся ў КПЗБ).

**Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ)** была створана ў кастрычніку 1923 года. У яе ўвайшлі члены КП(б) Беларусі і КП Літвы, што працавалі падпольна на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Дзейнічала КПЗБ нелегальна на правах тэрытарыяльнай арганізацыі ў складзе КП Польшчы. Сваёй мэтай ставіла сацыялістычную рэвалюцыю, перадачу сялянам памешчыцкай зямлі без выкупу, аб'яднанне з БССР. Нелегальная дзейнасць членаў КПЗБ рашуча праследавалася ўладамі. Прыкладна палавіна членаў партыі пастаянна знаходзілася ў турмах. Але нягледзячы на цяжкасці, КПЗБ была найбольш шматлікай і ўплывовай сярод беларускіх партый краю. Да 1933 года ў яе шэрагах налічвалася 4 тысячы чалавек, дзейнічалі 11 акруговых і больш за 90 раённых камітэтаў. Цэнтральным друкаваным органам партыі была газета "Чырвоны сцяг", выдаваўся часопіс "Бальшавік". Легальна выходзілі газеты "Барацьба", "Беларуская газета", "Наша воля", сатырычны часопіс "Асва".

У 1925 годзе беларускія паслы польскага сейма стварылі Беларускую сялянска-рабочую грамаду — партыю, якая за кароткі час свайго існавання змагла аб'яднаць у сваіх шэрагах каля 120 тысяч чалавек. У яе праграме былі асноўныя дэмакратычныя і асобныя сацыялістычныя патрабаванні. Грамада выступала за аб'яднанне з БССР, а галоўным сродкам нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення лічыла адкрытую барацьбу.

Вынікам дзейнасці гэтых партый стаў рэзкі пад'ём з 1926 года нацыянальна-вызваленчага руху. Сітуацыя абвастрылася. Пасля майскага перавароту 1926 года, які прывёў да ўлады Ю. Пілсудскага, яго ўрад пачаў масіраваны наступ на ўсе беларускія арганізацыі. Першай у 1927 годзе была ліквідавана Грамада.

У гэтых умовах найбольш уплывовай сілай заставалася кампартыя. Яе ранейшы курс на сацыялістычную рэвалюцыю і непрыняцце дэмакратычнага руху з 1935 года змяніўся. КПЗБ прымае выпрацаваную Камінтэрнам новую стратэгію, накіраваную на адзінства дзеянняў усіх нацыянальных партый і стварэнне шырокага антыфашысцкага народнага фронту. Але ў 1938 годзе дзейнасць партыі была спынена. Выканкам Камінтэрна прымае рашэнне аб роспуску КП Польшчы і яе састаўных частак — КПЗБ і КПЗУ. Партыі абвінавачаны ў тым, што ў іх кіраўніцтва праніклі агенты польскай дэфензівы. Роспуску папярэднічалі рэпрэсіі. У 1937 годзе былі арыштаваны ўсе кіраўнікі КПП і КПЗБ, якія знаходзіліся ў СССР. Толькі ў 1956 годзе з партый і іх актыву былі зняты гэтыя беспадстаўныя абвінавачванні.

**Святлана ЖЫДКАЯ, БелТА.**

НУМІЗМАТЫКА







Памятная манета, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнага артыста Г. Глебава.

БелТА.




Сёлета пленэр на Браслаўскіх азёрах сабраў студэнтаў з Польшчы, Іспаніі, Славеніі, Нідэрландаў, Расіі і Беларусі. Прэзентацыя іх работ стала своеасаблівай справаздачай Міжнароднай творчай акадэміі, арганізаванай форумам еўрапейскіх студэнтаў пры падтрымцы Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, Міжнароднага гуманітарнага і Еўрапейскага культурнага фондаў.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### ЛАТВІЯ

Добры дзень, "Голас Радзімы!" Пішуць табе з самай маладой суполкі Латвіі — "Мара", з Ліепаі. Нам толькі чатыры месяцы, і аб'ядналася нас пакуль не вельмі многа — каля 40 чалавек, хаця ў нашым горадзе пражывае каля 4 тысяч беларусаў. Мабыць, яшчэ не паспелі за такі кароткі час знайсці адзін аднаго. Хаця, здаецца, ёсць і больш важкія прычыны: мы раз'яднаны, у горадзе, дзе беспрацоўе дасягае 16 працэнтаў, кожны заклапочаны пошукамі кавалка хлеба, праблемамі самавыжывання. Не да хлеба духоўнага... Хаця мы добра разумеем, што толькі моцныя духам могуць паспяхова рашаць і матэрыяльныя праблемы.

Дзякуючы пасольству Рэспублікі Беларусь у Латвіі, мы атрымалі некалькі нумароў газеты "Голас Радзімы". Вельмі ўзрадавала, што на Бацькаўшчыне ў нас ёсць свая газета, у якой многа карыснай і неабходнай інфармацыі — як па гісторыі нашай Радзімы, яе культурнай спадчыне, так і аб падзеях, што адбываюцца сёння, жыцці беларусаў за мяжой. Нас вельмі цікавіць, як жывуць беларусы іншых краін, дзе ў дыяспар ужо ёсць багаты вопыт і традыцыі. Хацелі б наладзіць з імі сувязь.

Спадзяемся, што ў хуткім часе парадуем вас добрымі весткамі аб нашым жыцці-быцці. У сваю чаргу, будзем шчыра рады, калі пачнем атрымліваць хаця б адзін экземпляр "Голасу Радзімы".

Паведамляем свае каардынаты для іншых суполак:

Liepajas Ballknievu kopiena "Мага"
Kungu iela 2—9,
Liepaja, Latvija LV-3401.

З надзеяй на супрацоўніцтва "Мара".

## МЕРКАВАННЕ

### РАСІЯ

Паважаны "Голас Радзімы!" Дзеля "зваротнай сувязі" і дзеля яшчэ трох прычынаў пішу ліст:

1) Падзяка. Дзякуй за тое, што прысылаюцца ў Пецярбург навіны з далёкай Радзімы.

2) Крытыка. Відавочная недакладнасць у ілюстрацыі на першай паласе нумара 36 (за 9 верасня). Паказана карта Заходняй Беларусі без Беластока — горада, у якім З'езд народных дэпутатаў хадайнічаў у верасні 1939 года аб прыняцці Заходняй Беларусі ў склад БССР.

Удакладненні.

Некалькі месяцаў складна напісанага і вельмі патрэбнага (да юбілею славутага дзеяча) артыкула "Князь-пілігрым" (№№ 35—36 за 1999 год) паспрабую пракаментаваць. Другі ад пачатку сказ: "Княжацкі род Радзівілаў вядомы з XII стагоддзя (Радзівілаўскі летапіс, давездзены да 1206 года, з сярэдзіны XVIII стагоддзя знаходзіцца ў архіве Пецярбургскай акадэміі навук)":

1) Радзівілаўскі летапіс ніяк не сведчыць аб Радзівілах XII—XIII стагоддзяў. Ён увогуле іх ні разу не ўспамінае. Род у XII стагоддзі невядомы.

2) Рукапіс гэты зараз знаходзіцца ў бібліятэцы Акадэміі навук, а не ў архіве АН — гэта розныя ўстановы.

У трэцім ад пачатку сказе аўтар піша: "Радзівілы заўсёды займалі вышэйшыя дзяржаўныя і ваенныя пасады на Русі Літоўскай, потым у Рэчы Паспалітай, а з канца XVIII і ў пачатку XX стагоддзяў — у Расіі".

1) Дзяржава "Русь Літоўская" ніколі не існавала, таму Радзівілы не маглі займаць там ніякіх пасадаў;

2) вышэйшых дзяржаўных і ваенных пасадаў з канца XVIII і ў пачатку XX стагоддзяў у Расійскай імперыі Радзівілы не займалі.

3) Мікалай Радзівіл Чорны не з'яўляецца заснавальнікам нясвіжскай друкарні, але толькі брэсцкай; адзіны поўны арыгінал карты Макоўскага 1613 года захаваны не ў Вільні, як піша аўтар, а ва Упсале і г. д.

З павагай

**Мікола НІКАЛАЕЎ,**
**бібліятэкар Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу.**

## ЗАМЕЖЖА

● **Эмануіл ЮФЕ,** *прафесар, доктар гістарычных навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей.*

Сёння ў Англіі жыве больш за 400 000 яўрэяў. Сярод іх ёсць і ўраджэнцы Беларусі. Зразумела, колькасць беларускіх яўрэяў у гэтай краіне не ідзе ні ў якое параўнанне з ураджэнцамі Беларусі ў ЗША, Ізраілі, Канадзе і іншых краінах. Але ўсё ж сярод іх аказаліся выдатныя асобы.

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў АНГЛІІ

Мала каму вядома, што невялічкі гарадок Зэльва Гродзенскай вобласці — радзіма выдатнага англійскага вучонага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па хіміі за 1982 год **Арона КЛУГА**. Ён нарадзіўся ў 1926 годзе ў сям'і гандляра жывёлай Лазара Клуга і Бэлы Клуг (Сілінай). Калі хлопчыку было два гады, Клугі пераехалі ў Паўднёвую Афрыку, у горад Дурбан, куды сям'я яго маці эмігрыравала на пачатку XX стагоддзя.


*Арон КЛУГ.*

З юнацкіх гадоў Арон Клуг жыве ў Вялікабрытаніі і з'яўляецца падданым гэтай краіны. Крышталёграф па адукацыі, ён пачаў сваю навуковую дзейнасць у каледжы Бірбек у Лондане. Тут разам з Разаліндай Франклін займаўся даследаваннем віруса табачнай мазаікі (ВТМ) — класічным аб'ектам малекулярнай біялогіі і "біялагічнай" крышталяграфіі.

Неўзабаве Клуг пераязджае ў Кембрыдж, дзе выкладае ў славутым універсітэце і працуе ў структурным аддзеле Лабараторыі малекулярнай біялогіі, якая атрымала потым сусветную вядомасць.

Многія англійскія і зарубежныя вучоныя, якіх можна лічыць яго калегамі, адзначаюць выдатнае фізічнае мысленне Клуга, цудоўнае валоданне хіміяй і матэматыкай, што дазваляе яму быць крышталёграфам экстра-класа.

Мадэлі Арона Клуга і яго паплечнікаў дазволілі прыступіць да рашэння асноўнага пытання малекулярнай біялогіі шматклетачных арганізмаў: як працуе ДНК у храмасомах і што вызначае той факт, што ў кожнай клетцы сярод многіх соцень тысяч генаў спецыфічна працуе толькі частка з іх. Экспрэсія гэтых актыўных генаў вызначае своеасаблівасць кожнай клеткі і зладжаную працу ансамбля многіх мільярдаў клетак у арганізмах. На думку шэрагу вучоных, у адказе на гэтае пытанне бачыцца і вырашэнне праблемы рака.

Нобелеўская прэмія прысуджана доктару Арону Клугу за работы ў галіне электроннай мікраскапіі, якія дазволілі зрабіць аналіз структуры важнейшых нуклепратэідных комплексаў.

Імя таленавітага англійскага фізіка і спецыяліста па малекулярнай біялогіі А. Клуга добра вядомае ў навуковым свеце многіх краін. Ён удастоены ганаровых ступеняў Калумбійскага, Чыкагскага, Страсбургскага і Стакгольмскага універсітэтаў. Клуг узнагароджаны таксама прэміяй доктара Х. П. Хейкена Нідэрландскай каралеўскай акадэміі навук і мастацтваў і прэміяй Луізы Грос-Хорвіц Калумбійскага універсітэта. Наш зямляк — член Лонданскага каралеўскага таварыства і ганаровы іншаземны член Амерыканскай акадэміі навук і мастацтваў.

Пераважнай большасці англічан вядомае імя выдатнага вучонага і вынаходніка, буйнога спецыяліста ў галіне тэлевізійнай тэхнікі **Ісаака ШЭНБЕРГА**. Ён нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Пінску ў 1880 годзе. Пасля заканчэння ў 1904 годзе Кіеўскага політэхнічнага інстытута ён прыехаў у Пецярбург і на працягу дзесяці год (1905—1914) працаваў галоўным інжынерам Рускага таварыства бяздротавых тэлеграфаў і тэлефонаў. Гэтае таварыства мела партнёрскія сувязі з англійскай фірмай Марконі.

У 1911 годзе па справах Рускага таварыства бяздротавых тэлеграфаў і тэлефонаў Шэнберг упершыню пабываў у Англіі. Тут яму прадставілася перспектыва заняцца навукай і вынаходніцтвам. У 1914 годзе Шэнберг з сям'ёй пераехаў у Вялікабрытанію, спадзеючыся сур'ёзна заняцца матэматыкай і планую прарыў у гэтай краіне некалькі год. У 34-гадовым узросце ён паступае ў Каралеўскі навуковы каледж.

Калі пачалася першая сусветная вайна, фінансавы стан Ісаака Шэнберга пагоршыўся. Ён вымушаны быў пакінуць вучобу і зарабляць на жыццё. Спачатку Шэнберг працаваў начальнікам патэнтнага аддзела кампаніі Марконі, але неўзабаве яго запрашаюць узначаліць патэнтную службу фірмы "Каламбія Компані", якая спачатку стварала і выпускала апаратуру гуказапісу, а потым занялася распрацоўкай першых тэлевізійных сістэм.

У пачатку 1930-х гадоў Шэнберг зрабіў шэраг арыгінальных вынаходак у галіне тэлевізійнай тэхнікі: перадаючую трубку — эмітрон, спосаб кампенсацыі паразітных сігналаў перадаючых трубак. У 1936 годзе ўпершыню ў свеце ён распрацаваў і ўкараніў многакадравую (405 радкоў разлажэння) сістэму электроннага тэлебачання, якая функцыяніравала ў Англіі да сярэдзіны 1980-х гадоў, дакладней, амаль паўвека. Разам са сваёй групай Ісаак Шэнберг распрацаваў новую перадаючую трубку — суперэмітрон, якая мела адчувальнасць у дзесяць разоў большую, чым яе папярэдніца. З дапамогай гэтай трубкі ўпершыню ў Вялікабрытаніі была ажыццёўлена пазастудыйная перадача.

Новая тэлевізійная сістэма Шэнберга была буйным тэхнічным і тэхналагічным дасягненнем свайго часу. Заслугі вынаходцы атрымалі прызнанне не толькі ў Англіі, але і ў ЗША, Францыі, Італіі і іншых краінах. У 1954 годзе І. Шэнберг быў узнагароджаны вельмі прэстыжным медалём М. Фарадэя, яго навуковыя дасягненні былі адзначаны англійскай каралевай. Шэнберг атрымаў правы звацца сэрам. Ён памёр у 1963-м годзе.

(Заканчэнне будзе).

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

# З ДЫНАСТЫІ АГІНСКІХ




На пытанне, хто такі Міхал Клеафас Агінскі, часцей за ўсё гучыць адказ: аўтар славутага паланеза "Развітанне з Радзімай". Сапраўды, гэтая мелодыя карыстаецца ў Беларусі такой вялікай папулярнасцю, што ледзь не стала нацыянальным гімнам. Аднак тым, што М. К. Агінскі — выдатны кампазітар XIX стагоддзя, часта і абмяжоўваюцца нашы веды аб гэтай шматграннай і таленавітай асобе, якая адыграла значную ролю ў дзяржаўным, палітычным і культурным жыцці Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі.

Міхал Клеафас Агінскі паходзіць з старадаўняга беларускага шляхецкага роду Глушонкаў. Частка яго жыцця прайшла ў маёнтку Залессе, што ля Смаргоні, тут жа, як мяркуюць даследчыкі, быў напісаны і паланез "Развітанне з Радзімай". Такім чынам, спадчына М. К. Агінскага з'яўляецца яркай старонкай беларускай культуры, таксама, як і культуры Польшчы і Літвы. У сувязі з гэтым мы рады адзначыць з'яўленне ў беларускіх кнігарнях кнігі Анджэя Залускага "Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага".

Цікава, што яе аўтар — брытанскі падданы, палак па паходжанню — з'яўляецца прамым патомкам М. К. Агінскага, дакладней кажучы, яго праправнукам. Зацікавіўшыся жыццём і музыкай свайго славутага продка, Анджэй Залускі (дарэчы, таксама прафесіянальны музыкант) звярнуўся да руплівага вывучэння архіўных дакументаў, мемуараў і дзённікаў Агінскага, наведаў Вільню, Смаргонь, Залессе.

Пасля таго як у 1997 годзе ў Вялікабрытаніі з'явілася кніга "Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага", мінскае выдавецтва "Чатыры чвэрці", добра вядомае сваёй значнай дзейнасцю ў справе адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, пачало рыхтаваць яе пераклад. І вось 26 кастрычніка ў Беларускім таварыстве дружбы адбылася сустрэча з Анджэем Залускім і прэзентацыя яго кнігі на рускай мове. З упэўненасцю можна сказаць, што рэдакцыйны калектыў выдавецтва "Чатыры чвэрці": кіраўнік праекта Л. Анцух, навуковы кансультант А. Мальдзіс, перакладчык В. Плютаў, рэдактар А. Саламевіч, музычны рэдактар С. Немагай, мастак Э. Жакевіч — зрабілі сапраўдны падарунак для тых, хто цікавіцца жыццём і творчасцю М. К. Агінскага.

Застаецца дадаць, што прэзентацыя кнігі прайшла ў цудоўнай святочнай атмасферы. Гэты настрой ствара музыка Агінскага, якая гучала ў выкананні знакамітых беларускіх дзеячаў мастацтва — В. Скорабагатава, І. Алоўнікава, Г. Каржанеўскай, І. Лучанка, выступленне смаргонскага дзіцячага ансамбля пад кіраўніцтвам С. Верамейчыка, дэманстрацыя твораў беларускага мастака У. Стэльмашонка.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



МІНСКІЯ ПЕЙЗАЖЫ

# А Ў НАС, У МІХАЙЛАЎСКІМ...

Госці нашага горада, якія прыбываюць чыгуначным транспартам, без цяжкасцей могуць апынуцца... у Міхайлаўскім. Не, нічога агульнага з вялікім Пушкіным гэта месца не мае. Размова ідзе аб Міхайлаўскім скверы, размешчаным на перакрыжаванні чатырох дарог у цэнтры Мінска, недалёка ад вакзала. Назва невялікага зялёнага кутка, дзе з задавальненнем адпачываюць і госці, і мінчане, прыйшла з мінулага стагоддзя. Аднак у сучасны лексікон яна вярнулася нядаўна: сквер нечакана стаў папулярным, калі прыцягнуў увагу гараджан неардынарнасцю скульптур, падораных гораду сталічнай мэрыяй.

Арыгінальнасць паркавых збудаванняў, безумоўна, справа спрэчная. У буклетах і даведніках замежных краін можна ўбачыць многае. Не будзем прыцягваць сусветную практыку, а проста пагодзімся, што для Мінска — гэта з'ява новая. Помнікі і скульптурныя ўпрыгажэнні ў многім вызначаюць архітэктурнае аблічча горада. Па тым, наколькі яны арганічныя і да месца, запамінальныя, як увальюцца ў агульны пейзаж, якой сэнсавай аўрай надзелены аўтарам, у рэшце рэшт будуць меркаваць аб нас саміх. У Мінску нямала месцаў, дзе намаганнямі архітэктараў, скульптараў, дызайнераў, мясцовых адміністратараў створаны непаўторны каларыт горада.

Першай у Міхайлаўскім скверы з'явілася "Дама на лаўцы". Аўтар — скульптар В. Жбанаў. Адначасова пяшчотная і ганарыстая, яна ўвасабляе жаночы вобраз, што злучыў мінулае і будучыню; змяшэнне эпох і стыляў. Натуральная вытанчанасць і ірэальныя прапорцыі робяць яе недаступнай. Але нягледзячы на бронзавую халоднасць, яна застаецца спакойнай і добразычлівай, назірае за навакольнай прыродай, не дзівіцца ўвазе да сябе і кампліментам, што гучаць навокал. Вось некаторыя з іх.

Аляксандр (студэнт): "Папершае, гэтая скульптура выклікае ў мяне адчуванне свята. Яе поза, пастава, нязвыкласць будзяць фантазію. Па-другое, з густам апранутая жанчына, да таго ж у шыкоўным капялюшы, прымушае "падцягнуцца", паглядзець на сябе збоку. Дзякуй ёй і аўтару".

Святлана Мікалаеўна (служачая): "Прыходжу сюды адпачыць. Сяджу на суседняй лаўцы, назіраю, як неаднолькава ўспрымаюць кампазіцыю людзі. Адным падабаецца, гэта відаць па ўсмешцы. Іншыя крытыкуюць: маўляў, не бывае такіх жанчын ды яшчэ ў капелюшы! Пасядзець побач адважваюцца нямногія: гэта прыцягвае да сябе ўвагу. Вядома, крыўдзіць, калі маўклівая Дама вымушана цярпець суседства нецвярозых гасцей. На фоне яе вытанчанага вобраза тыя выглядаюць недарэчна, хаця гэтага не разумеюць. Тут ёсць выхаваўчы момант,



бо яны выглядаюць прымітыўна і смешна".

Кампліменты і крытыка важныя аднолькава. Галоўнае, што прахожыя не засталіся абыякавымі. Яшчэ адна скульптура з'явілася праз год і зрабіла яшчэ большы фурор. Па другі бок дэкаратыўнай агароджы сквера, непадалёку ад тралейбуснага прыпынку, што прадугледжвала суседства сумуючага натоўпу, на крышцы люка стаіць бронзавы чалавек з хітрай усмешкай (аўтарства таго ж скульптара). Яго выгляд, поза выдаюць жыццялюба, гаваруна, дабрака. У жэсце чалавека, які просіць закурыць, угадваецца прыкмета і напамін аб мінулым, калі цыгарэта магла стаць прычынай для размовы, а яе кошт не вызначаўся. Адзінокая фігура выглядае безабаронна, нібыта ў спыненым кадры кінафільма, які адлюстраваў імгненне збянтэжанасці чалавека, а гэтая збянтэжанасць аказалася вечнасцю. Няспынны паток прахожых абцяжарвае "зносіны". Іншы раз, праўда, знаходзяцца жадаючыя сфатаграфавацца побач ці пакурыць разам...



З'яўленне ў Міхайлаўскім скверы дзвюх фігур нарадзіла мноства розных меркаванняў, што натуральна і, верагодна, уваходзіла ў планы аўтара. Выклікаць цікавасць, крыху адцягнуць людзей ад няпростых жыццёвых праблем, прымусіць задумацца аб узвышаным. Нехта не разумее задумы, скардзіцца на разбазарванне матэрыяльных сродкаў і ўступае ў спрэчку з апанентамі, што само па сабе азначае прыбаўленне ў палку знаўцаў мастацтва. Такім чынам, абмеркаванне ператвараецца ў дыскусію, і людзі раптам успамінаюць, што ёсць на зямлі каштоўнасці духоўныя.

Але такія спрэчкі маглі адбывацца і адбываліся толькі пры ўмове па-сапраўднаму талентавітага творчага выканання задуманага твора, што нясе ў сабе ўсе элементы часу. Беларускія мастакі, скульптары, дызайнеры маюць багаты патэнцыял ва ўвасабленні задум не толькі дэкаратыўнага афармлення гарадскіх зон адпачынку, але і скульптурных твораў іншых узроўняў. Сведчаннем гэтаму з'яўляюцца шматлікія спецыялізаваныя выставы, творчыя справаздачы майстроў каменя і бронзы, пленэры, правядзенне якіх у рэспубліцы стала традыцыйным. Нельга сказаць, што ўвагі з боку творчых саюзаў, міністэрстваў, мясцовай адміністрацыі недастаткова. Аднак многае з таго, што прайшло апрабацыю ў спецыялістаў і гледачоў, знайшло адабрэнне, застаецца пакуль у эскізах і праектах.

Вопытныя майстры, якія маюць высокую кваліфікацыю, рэалізуюцца ў бытавых заказах і запатрабаваны хутчэй за мяжой, дзе за невялікія ганарары праяўляюць цуды вынаходлівасці і ўмення.

Многія з тых, хто гатовы служыць любімай справе, не разлічваюць на шчодрае ўзнагароджанне, бяруцца за афармленне тэрыторый дзіцячых садоў і двароў, што, дарэчы, не менш важна, чым цэнтральныя паркі, а ў сэнсе выхаваўчага ўплыву акаляючага асяроддзя жыцця, можа быць, і больш.

Дзве скульптуры Міхайлаўскага сквера, не звязаныя адна з адной агульнай ідэяй, усё ж выконваюць місію звароту і заклік да лепшых пачуццяў чалавека. Спыніся, прахожы, звярні ўвагу на бліжняга. Прыглядзься да яго і зразумей. Няхай успрыняцце вобраза пройдзе свой індывідуальны шлях — ад неразумення да захаплення, няхай гэты вобраз будзе нетрадыцыйным, нязвыклым, тым багацейшыя асацыяцыі, тым больш выразна ўспрыме ўбачанае памяць. Пачутае прымусіць задумацца...

Перакрыжаванне чатырох дарог у цэнтры сталіцы стала славутым, набыло сваю значнасць. Цяпер гэты куток Мінска — адна з прыкмет сучаснага беларускага мастацтва. Пачатак пакладзены. Магчыма, неўзабаве сквер папоўніцца яшчэ адным "падарункам" для завяршэння кампазіцыі гэтага месца адпачынку мінчан.

Спадзяемся, што ў нас, у Міхайлаўскім, будзе ўсё ў парадку.

**Алена КОНАНАВА.**
**Фота Віктара СТАВЕРА і аўтара.**

## МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

У Гомелі прайшла II Міжнародная канферэнцыя "Праз парадненне гарадоў — да ўстойлівага сацыяльнага і экалагічнага развіцця". Дэлегатамі канферэнцыі былі прадстаўнікі Беларусі, Германіі, Вялікабрытаніі, Ізраіля, Італіі, Даніі і Расіі. Яны абмеркавалі праблемы наркаманіі і СНІДу, экалагічныя якасці пітной вады і іншыя. Удзельнікі канферэнцыі пабывалі на тэрыторыях адсялення пасля чарнобыльскай трагедыі, пазнаёміліся з жыццём самасёлаў.

НА ЗДЫМКУ: фермер з Магілёўскай вобласці Валерый ШАГУН і прадстаўніца горада-пабраціма Гомеля — Абердзіна Алена ІВОН (Шатландыя) ля дома жыхаркі-самасёла вёскі Барталамееўка Веткаўскага раёна Алены МУЗЫЧЭНКІ.




З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Ганна КАШУБА нарадзілася ў 1953 годзе ў Капыльскім раёне на Міншчыне.**

**Скончыла Мінскае паліграфічнае вучылішча і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

**Працавала ў газетах, загадвала аддзелам рэстаўрацыі Нацыянальнай бібліятэкі, стварыла і ўзначальвала дзіцячы цэнтр беларускай культуры ў сталічным мікрараёне Шабаны. Зараз — рэдактар Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.**

**Першы верш Ганны Кашубы быў апублікаваны ў 1972 годзе.**

**Цяпер аўтарка працуе над кнігай, у якую ўвойдуць вершы, песні (музыку піша сама), апавяданні, дзённікавыя запісы.**

**Ганна КАШУБА**



У Бога прашу: "О, вышэйшая сіла!
Дай часу —
табе я яшчэ
паслужу".

А Бог-уладар —
ён любоўю адорвае шчодрай.
Я у думках малю:
"Не зацьмі толькі зрок!"
І веру ў наступны
упэўнены крок,
Душу атуляю
надзеі блакітнаю коўдрай.

Я збоку гляджу
на гады ураджаю.
Яны, як зярняты,
напітыя сокам зямлі.
Я з сэрца дастану
атрутную кулю адчаю —
Прад Богам адным
справаздачу трымаю,
Падзяку нясу,
што любоў на усіх
падзяліў.

### ПРОСЬБА

Падары мне, жыццё, —
ранкі з песень птушыных,
Падары мне, жыццё, —
фарбы спелай рабіны,
І забыцца не дай
калыханкі калоссяў,
І вярні ў светлы май —
сэрца сталае просіць.

Падары мне, жыццё, —
кожны звон капяжовы
І ўсміхайся заўжды
небасхілам ружовым,
І сукенку сатчы
мне з блакіту льнянога —
Не шкадуй жа, жыццё,
для мяне ты нічога.

І аддзячу я тым,
што ў душы маёй спее,
Бо я веру: заўжды
ты мяне разумееш.
І ўздымаюцца рукі,
мкнуць да сонца і Бога.
Дзякуй, дзякуй, жыццё,
больш не трэба нічога.

### АНТАНІНЕ

Лета Бабіна —
на зыходзе,
Лісце кружыцца —
ў карагодзе,
І гайдаецца
павуціна—
Хай любуецца Антаніна.

Хмаркі, быццам бы
балерыны,
Вальс танцуюць
для Антаніны,
Пакланяюцца нізка
клёны,
Быццам кожны
ў яе ўлюбёны.

Дываном —
залатыя травы.
Туліць ветрык яе
ласкава,
І казыча праменьчык
носа,
Гэта сонца віншуе
здалёку.

Усе разам
на імяніны
Завіталі
да Антаніны,
Каб навечна
застацца ў сэрцы,
Не дазволіць ёй
састарэцца.

***

Я збоку гляджу
на гады ураджаю.
Ці ўдасца,
пытаю сама у сябе.
А сэрца прастрэлена
куляй адчаю.
А, можа, не я гэта
нема пытаю,
А, можа,
пытанне гасподзь задае?

Я крыўдаў, як скарб,
не збірала чужыя,
Хоць подласць і зло
мне распялі душу...
А, можа, дабру я не гэтак
служыла?

### БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ

Трывожыцца сэрца,
хвалюецца сэрца
За клёкат бусліны,
за звон ручайка.
І мне ад пакутаў
нікуды не дзецца,
Пакуль у пакутах
і лес, і рака.

Смуткуюць дубравы,
і плача сасоннік,
І стынуць палеткі,
і хаты маўчаць...
Я ўпасці прад імі
хачу у паклоне
І сэрца сваё
назаўжды ім аддаць.

Смяротная хмара
павісла надоўга,
Над краем рамонкаў,
ільну, васількоў.
О як жа хачу я
і мала, і многа —
Над вымерлым краем
пачуць жураўоў.

Не вычарпаць гора,
здаецца, людскога,
Цярпенне нацягнута,
быццам струна.
Сваё я жыццё
аддала б за малога,
Якога прымае сягоння
труна...

Нікуды ад болю
ужо нам не дзецца.
Мой край беларускі —
трывалы душой...
О як жа трывожна
хвалюецца сэрца.
У нелюдзяў толькі
пануе спакой.

***

*Заслужанай артыстцы*
*Рэспублікі Беларусь*
*ЛАРЫСЕ МАКСІМАВАЙ*

Душы так цесна у грудзях —
Яна імкне у паднябессе,
Туды, дзе зззяе Млечны шлях,
Адкуль туман свой шоўк павесіў.

Насустрач ёй увесь Сусвет —
Душа усё-ткі чараўніца.
А, можа, ў тым і ёсць сакрэт,
Каб даць асмягламу напіцца.

Каб узлятаць над шэрым днём
На гуках музыкі, бы ў дзвацццаць.
І каб не тлець — палаць агнём
І ў маладосці заставацца.

***

Калі словы свае — камяні —
Вы нацэліце ў сэрца маё, —
Я злаўлю іх рукамі
І не кіну ў адказ.
Я занясу іх далёка-далёка,
Каб не бачылі вочы людскія.

"ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ"

**На працягу паўтара года ў эфір Беларускага тэлебачання выходзіла перадача, якую з задавальненнем глядзелі многія. Называлася яна "Гісторыя кахання", а аўтарам і вядучай была журналіст Вольга ЧАКУЛАЕВА. Нам падалася прывабнай ідэя перанесці некаторыя яе сюжэты на старонкі газеты, каб з іх героямі маглі пазнаёміцца і нашы чытачы.**

**Але спачатку некалькі слоў пра Вольгу Чакулаеву. Яна скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і вышэйшыя рэжысёрскія курсы ў Маскве. Увогуле Вольга працавала ў эфіры Беларускага тэлебачання каля 16 год. Прымала ўдзел у стварэнні папулярных праграм для моладзі "Крок" і "Карамболь", была вядучай праграм "Залатая дзесятка. Рэспубліканскі конкурс маладых палітыкаў" і "Добрай раніцы, Беларусь". А потым з'явіўся яе аўтарскі праект "Гісторыя кахання".**

**Зараз Вольга гадуе маленькага сына Сцёпу. Творчай фантазіі ёй не займаць, і планаў на будучыню шмат. Але галоўнае ў жыцці шчаслівай маці — гэта яе дзіця і сям'я. Вольга стварае сваю "гісторыю кахання".**

**Сёння ў рубрыцы "Гісторыя кахання" мы разам з Вольгай Чакулаевай раскажам пра сям'ю чалавека, імя якога даўно і добра вядомае. Наўрад ці знойдзецца хто-небудзь на Беларусі, каб не чуў яго песень. Ведаюць іх і далёка за межамі нашай краіны. Гэта народны артыст Беларусі кампазітар Эдуард Ханок і яго жонка Яўлалія Іванаўна.**

# ХАНКІ Яўлалія і Эдуард





Першы раз яны сустрэліся ў гасцях, куды прыйшла Яўлалія з бацькамі. Ёй было 16 год, яму — 20. Эдуард іграў на акардэоне, і яму ніяк не ўдавалася ўразіць дзяўчыну, якая спадабалася. Яна ганарылася, што паступіла ў музычнае вучылішча, і не заўважала хлопца. Нарэшце Эдуард сеў за раяль, і толькі пасля гэтага Яўлалія звярнула на яго ўвагу.

Эдуард Сямёнавіч прызнаецца, што ён не вельмі "джэнтльменскі чалавек" і Яўлаліі неаднойчы даводзілася звяртаць яго ўвагу на гэта. Напрыклад, заказаны мог купіць сваёй дзяўчыне цукерак і практычна ўсе іх з'есці, пакуль глядзелі фільм у кінатэатры. Вось так ён заляцаўся да яе. Але сустракаліся яны нядоўга, таму што Эдуард Сямёнавіч паехаў вучыцца ў Мінск, а калі прыехаў да Яўлаліі ў Брэст на канікулы, дык яны адразу ж пасварыліся. Па словах Яўлаліі Іванаўны, па той прычыне, што яна была не так выхавана, як яму хацелася б. На думку ж Эдуарда Сямёнавіча, яна не падыходзіла яму па ўзросту і была старамоднай ў тым плане, што не жадала з ім цалавацца.

Пэўны час Эдуард не прыязджаў на канікулы, і толькі праз два гады, акурат пад Новы год, ён прыйшоў да яе ў вучылішча. Калі яны ўбачылі адзін аднаго, то зразумелі, што лёсу пярэчыць нельга.

Расказвае Эдуард Сямёнавіч: "Спачатку мы існавалі як бы і разам, і паасобку, гэта яна ўжо потым "мяне зляпіла з таго, што было". Тады ж, у 1962 годзе, мы ажаніліся, а праз два месяцы я паступіў у Маскоўскую кансерваторыю. Так захапіўся вучобай, што нават і пра жонку забыўся. Першыя гады мы жылі практычна асобна, яна ў Брэсце, я ў Маскве".

Яўлалія Іванаўна працавала ў клубе чыгуначнікаў, а праз некаторы час пераехала да сястры на Украіну, у горад Крывы Рог, і ўладкавалася на работу ў музычную школу (на чатыры доўгія гады).

Такое існаванне нарэшце "дабіла" Эдуарда Сямёнавіча, і ён вырашыў перабрацца да жонкі ў Крывы Рог. Пачаў працаваць на музычна-педагагічным факультэце мясцовага педінстытута. Але адносіны ў іх не складваліся. Дзіцяці было тады трохі больш года, і эмацыянальны музыкант сумаваў дома, дзе ў 9 гадзін вечара ўсё сціхала, а ён жа лічыў, што толькі пасля 9 пачынаецца жыццё. Скончылася тым, што Эдуард завёў раман. Ён сказаў жонцы, што яна занадта добрая для яго, занадта спакойная, а вось тая дзяўчына вясёлая, жвавая і проста створана для яго. Пасля такога прызнання Яўлаліі Іванаўне стала шкада мужа, яна падумала, што мабыць і сапраўды не пара яму, і... дапамагла сабраць чамадан. Яны развіталіся. "Я разумею, — расказвае Эдуард Сямёнавіч, — што нікуды ад яе ўсё роўна не дзенуся. Мне здаецца, такім жанчынам, як мая жонка, мудрасць дадзена ад Бога. Яны проста робяць усё неяк інтуітыўна. Я ў гэтым упэўнены, таму што з таго часу пачаўся мой шлях "наверх".

Хутка яны зноў сышліся, каб больш ніколі не расставацца.

Сапраўды, усё ў нашым жыцці прадвызначана, і немагчыма гэтаму супраціўляцца. Нездарма гаворыцца, што паслухмяных лёс вядзе, а непаслухмяных — цягне.

Смешная гісторыя з сямейнага жыцця, расказаная Эдуардам Сямёнавічам: "У мяне была дрэнная звычка — я вельмі моцна раўнаваў Яўлалію і з-за гэтага часта падымаў шум. Але далей за шум ніколі не ішло, тым больш, што з жонкай асабліва не пасправаешся. Аднойчы, калі я прыйшоў позна, гадзіны ў чатыры раніцы, яна мяне адхвастала анучай, якой да таго мыла падлогу. І вы ведаеце, пайшло на карысць. Наступным днём я склаў песню "Разговоры стихнут скоро, а любовь останется". А гэты эпізод на ўсё жыццё запомніў".

Яўлалія Іванаўна з тых рэдкіх жанчын, якія адразу, з першага позірку, бяруць цябе ў палон — у палон ваччэй, ганарлівай постаці, умення трымаць сябе, у палон яскравай індывідуальнасці.

Эдуард Сямёнавіч: "Чым больш разумееш жыццё, тым больш пераконваешся, што ты нікому не патрэбны, акрамя сваёй сям'і. Жонка мацнейшая за мяне, таму ўсім, што зрабіў, я фактычна абавязаны ёй. Калі б яна так не разумела мяне, я б проста даўно развaліўся, я ў гэтым упэўнены на 1 000 працэнтаў. У яе нейкая жалезная логіка, якой мне абсалютна не хапае. Таму ў нас і атрымліваецца, смела можна сказаць, ідэальнае жыццё. Яна ведае мае слабасці, самая вялікая з якіх — гаварлівасць".

Яўлалія Іванаўна: "Справа ў тым, што Эдуард Сямёнавіч думае толькі ўслых. Ён павінен размаўляць з чалавекам, які на яго глядзіць, таму, калі я нават захачу недзе схавацца ці адпачыць, — ён мяне паўсюль дастане". Але Яўлалія Іванаўна проста навучылася не слухаць тое, што ёй не патрэбна. Яна вельмі шчаслівая, што жыве з каханым душа ў душу. "Я лічу, што я ў сваім жыцці зрабіла шмат: нарадзіла траіх дзяцей і ўсю сябе прысвяціла ім і мужу. Дзеці ўжо выраслі і паступова адыходзяць ад нас. Але нам так хораша і весела разам, мы такія шчаслівыя, што калі нават усе дзеці пакінуць нас, нам удваіх не будзе сумна. Я лічу, што мы ўжо дасягнулі таго, пра што марыць кожная сям'я, — гармоніі і адзінства".

Эдуард Сямёнавіч згодны з жонкай: "Мне здаецца, што нам ужо лёгка. Кожны з нас мае сваю мэту, кожны ведае свае недахопы і як ад іх своечасова пазбавіцца. Такім чынам, мы ювелірна прыстасаваліся адзін да аднаго, і я лічу, што мы сапраўды ідэальная пара".

Кніга кніг Біблія пачынаецца так: "Спачатку было слова..." І, на мой погляд, гэтае слова было словам "каханне"... Яўлалія Іванаўна: "Мне здаецца, што я адзіная жанчына на свеце, якой прызнаюцца так у каханні. Ён мне дзесяць разоў на дзень гаворыць, як мяне кахае і нават з працы тры разы ў дзень пазвоніць і скажа: "Матуля, я цябе кахаю" ці "Я яшчэ больш цябе кахаю". А калі здараецца, што ён не званіць пэўны дзень, дык я сама званю і гавару: "Папуля, ты забыўся, што кахаеш мяне?" Гэта ўсё і жарты, і сур'ёзна. Ён для мяне і сын, і муж, і бацька, ён — усё! А так, як ён кахае мяне, я лічу, ніводны муж не кахае".

**Падрыхтавала да друку Лавіньня АРЭШКА.**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

## ЛІСТАПАД

- Лістапад — вераснёўскі ўнук, кастрычнікаў сын, зіме бацюхна родны.
- У лістападзе гола ў садзе.
- Лістапад зіме сцежку пракладае.
- Лістапад на рабой кабыле ездзіць: то снег, то слата.

ЛІЧЫЛКІ

Ішоў баран  
Па крутых гарах,  
Вырваў траўку,  
Палажыў на лаўку.  
Хто яе возьмецъ,  
Той вон пойдзецъ.

ЗАГАДКІ

— Зранку ходзіць на чатырох нагах, удзень — на дзвюх, а ўвечары — на трох.

(Чалавек у розным узросце.)

— Ішоў даўгавяз — у сырую зямлю ўвяз.

(Дождж.)

— Ляжыць мужычок у залатым каптане, падпяразан, ды не поясам, сам устаць не можа, а людзі падымаюць.

(Сноп.)

— У вадзе родзіцца, а вады баіцца.

(Соль.)

— Што без вады плавае?

(Вобланка.)

СКОРАГАВОРКІ

— Смешкі кошцы, слёзкі мышцы.  
— І Піліп да ліпы прыліп. Да ліпы прыліп і Піліп.  
— Руды Рыгор гроб грыбы граблямі.  
— Санлівага не дабудзішся, лянівага не дашлешся.

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

## РУЧНЫ ПЕВЕНЬ

— Пеця, сюды! — камандуе гаспадар. Ганарлівы прыгажун пакідае сваіх чубатак і паволі, відаць, каб не траціць годнасці, накіроўваецца да яго. Мікалай працягвае руку, і певень звыкла, нібы на плот, узлятае на яе. На фотааб'ектыў і фатографа глядзіць, праўда, насцярожана, але побач з гаспадаром адчувае сябе ўпэўнена. На каго ж тады і абаперціся?

Задаволены і Мікалай ШАКОВІЧ, шафёр Крычаўскай вузлавой чыгуначнай бальніцы: такі ж давер заслужыць трэба!

ПАЛЕСКІЯ АБРАЗКІ МІКОЛЫ КАПЫЛОВІЧА

# КУРЫНАЯ ЖОРСТКАСЦЬ

Ахоўваючы на калгасным таку пшаніцу, мой сусед дубцом сцебануў адну самую нахабную курыцу, якую цяжка было адагнаць ад зерня. На яе грэбені выступіла кроў. А праз хвіліну параненую курыцу акружыла, апанавала цэлая зграя курэй разам з пеўнем. Усе яны ў адзін момант забыліся пра пшаніцу. Абганяючы адна адну, загінатызаваныя нейкім сваім даўнім і драпежным інстынктам, пусціліся даганяць няшчасную сяброўку, каб дзеўбануць яе акурат у тое месца, з якога паказалася кроў. Бедная курыца ўцякала як магла. Лапатала крыламі, у адчаі віяляла між платоў, зашывалася пад ганак, каб там адседзецца, пакуль спыніцца кроў. Але куды б яна ні бегла, курыная зграя не адставала ад яе, даганяла і дзяўбла курыцу з усіх бакоў. Ужо не толькі галава, але і шыя ахвяры залілася крывёю. Не паможаш — задзяўбуць да смерці.

Я глядзеў на гэтую пагоню і не верыў сваім вачам. Курыная жорсткасць скаланула мяне: нават пасля таго, як бітую і пакалечаную курыцу зламілі і, каб выратаваць, пасадзілі пад рэшата, тыя, разам з якімі яна толькі што рабіла вясёлыя набегі на калгасную пшаніцу, яшчэ доўга не маглі супакоіцца, асцяць, круціліся вакол рэшата, помсліва кудахталі ад лютай злосці.

Праз нейкі час рана на галаве загаілася, і курыцу выпусцілі на двар — ніхто з ганіцелек не звярнуў на сваю ахвяру ўвагі. Злосць, жорсткасць улегліся. Куры былі спакойныя. З таго даўняга дня я зразумеў, што такое "курыная слепата", "курыныя мазгі", "курыны кругагляд".

Гэта заўсёды прыгадваецца, калі бачыш, як у людзей прачынаецца гэты самы курыны інстынкт: усёй зграяй даканаць слабага — задзяўбці.



Фота Валерыя БЫСАВА.


«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:

Адказны сакратар Галіна УЛІЦЁНАК. Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.

Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК. Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.

Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР. Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА. Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81. Падпісны індэкс у Беларусі 63854. Тыраж 1 625 экз. Зак. 2139. Падпісана да друку 8.11.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).